# ПАГОНЯ

Чацвер
19 жніўня 1999 г.
№ 51 (428)
Кошт 25.000 руб.


## «Аль-Кітаб» гуртуе моладзь

**З'езд татарскай моладзі Беларусі прайшоў у мінулыя выхадныя ў Слоніме. Як паведаміў старшыня Слонімскай арганізацыі Беларускага аб'яднання татар-мусульман «Аль-Кітаб» Сулейман Байрашэўскі, у ім узялі ўдзел каля 150 прадстаўнікоў татарскіх абшчын з 13 гарадоў Беларусі і госці з Літвы. Спонсарам з'езду выступіла беларускае аддзяленне расейскай нафтавай кампаніі «Лукойл».**

На канферэнцыі, якая прайшла ў межах з'езду, выступілі старшыня мусульманскай рэлігійнай абшчыны Менска Ібрагім Канапацкі, член муфтыяту татар Беларусі Ісмаіл Варановіч і кіраўнік маладзёжнай арганізацыі татар-мусульман Беларусі Барыс Радкевіч. Прамоўцы асвятлілі гісторыю канфесійных традыцый Слоніма і Беларусі, а таксама ролю татарскай моладзі ў захаванні веры продкаў. Сярод удзельнікаў з'езду было праведзена сацыялагічнае даследаванне па вывучэнню запытаў татарскай моладзі, конкурс па гісторыі, традыцыях і татарскай мове. Свята завяршылася вечарам дружбы.

Рабочай камісіі на чале з Б.Радкевічам даручана распрацаваць праграму дзейнасці маладзёжнай арганізацыі татар-мусульман краіны. Удзельнікі з'езду выказалі абурэнне актам вандалізму —апаганеннем Слонімскай мячэці, якое адбылося ўвечары 9 жніўня. Як паведамляла ПАГОНЯ, хуліганы учынілі пагром, спрабуючы пранікнуць унутр мячэці, якая была адноўлена пры падтрымцы мецэнатаў з арабскіх краін і Турцыі ў 1994 годзе і стала першым рэлігійным цэнтрам іслама, адроджаным у Беларусі пасля 60-гадовага перапынку.

**Марат Гаравы**

## Дварцовыя разборкі

У вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна жылі-былі дзве сям'і армянскіх перасяленцаў. Нехта скраў у іх тры мяхі зерня: падазравалі мясцовых лайдакоў. 12 жніўня ў госці да названых сем'яў прыехалі стрыечныя браты П. з Маскоўскай і ,Калужскай абласцей. Пачуўшы пра крадзеж, яны ўзялі ў барот двух падазроных. Першы абышоўся лёгкім перапудам. Другога звязалі, завезлі за вёску і закапалі, але ён не прызнаўся.

Праз два дні ўдзельнікі разборкі былі затрыманыя міліцыяй па заяве пацярпелага. Узбуджана крымінальная справа паводле артыкула за пагрозу забойства.

## Стралялі, як лепей...

**А палове дзесятай увечары 14 жніўня ля пад'езду дома нумар 58 па вуліцы Урублеўскага ў Гродне прагучала шэсць стрэлаў. Нарад міліцыі спыняў жыхара названага дома, які перад гэтым быў прыцягнуты да адказнасці за сямейны скандал са сваімі бацькамі. Падчас «пасадкі» ў машыну правапарушальнік ударыў міліцыянта, спрабаваў завалодаць зброяй, а потым кінуўся наўцёкі.**

Чатыры стрэлы былі ў паветра, два патрапілі ў левую нагу ўцекача. Адна з куляў заляцела праз шыбы ў кватэру на першым паверсе. Паводле папярэдніх звестак, гэта быў рыкашэт ад бардзюра.

Пасля аказання медычнай дапамогі паранены быў адпушчаны дахаты.

**Сяргей Самасей**




**20 і 21 жніўня** - пераменная воблачнасць, кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёва-заходні, 3-8 м/с. Тэмпература паветра ўначы +7...+12, удзень +17...+22.

# У Астраўцы ўлада ўмацоўваецца за кошт крымінальных аўтарытэтаў?

**У Астравецкім раёне і раней было нямала «цікавых», а часам і цяжка вытлумачальных кадравых перастановаў. Але тое, што адбываецца ў гэтым раёне апошнім часам, ужо не толькі нельга зразумець, але, на мой погляд, ні ў якія рамкі не ўкладваецца і каментару не падлягае. Магутная мясцовая прэзідэнцкая вертыкаль, упэўненная ў сваёй непагрgalшымасці і самавольстве, на дзве кіруючыя пасады ў раёне прызначыла дзвух даволі «цікавых» асобаў, якія, мякка кажучы, мелі сур'ёзныя непаразуменні з крымінальным кодэксам.**




Месяц-паўтара таму на пасаду загадчыка лабараторыі аграхіміі ў Астравецкім раёне быў прызначаны нядаўна вернуты з месцаў не зусім аддаленых сп. М.Ялоўскі. Ён адбываў там пакаранне, прызначанае яму судом па артыкулу 91 ч.3 (крадзеж маёмасці ў буйных памерах) і арт.191 ч.1 (крадзеж і знішчэнне дакументаў фінанса-гаспадарчай дзейнасці прадпрыемства падманным шляхам). Цікава, што грамадзяне, якія былі асуджаны па першаму артыкулу, у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, не маюць права ад 2 да 5 гадоў займаць адпаведныя кіруючыя пасады. Аднак для Ялоўскага чамусьці было зроблена выключэнне. І, безумоўна, не выпадкова.

Перад сённяшняй уладай М.Ялоўскі ў Астравецкім раёне чалавек заслужаны - не пацягнуў у свой час па сваёй справе нікога з тых, хто будаваў пад яго ў раёне нешта накшталт піраміды з шэрагу камерцыйных структураў. Неўзабаве структуры тыя лопнулі, чым учынілі вялізную шкоду дзяржаўным прадпрыемствам і калгасам, якія ў свой час разам з прыватнымі асобамі былі іх заснавальнікамі.

Выключэнне Ялоўскаму было зроблена яшчэ і таму, што ён адзін з найболь яркіх прадстаўнікоў камуна-наменклатурнага «залатога кадравага запасу» Астравецкага раёна. У мінулым М.Ялоўскі не толькі хвацкі камерсант, вышэшчаны раённай уладай, але яшчэ і быў сакратар райкама партыі па ідэалогіі. Той самай партыі, якая ў свой час была «умом, честью и совестью нашей эпохи».

Зусім нядаўна яшчэ адзін прадстаўнік астравецкага «залатога кадравага запасу» заняў пасаду кіраўніка. Былы старшыня калгаса імя К.Маркса Я.Кухарчык, які замест «светлага будучага» ледзь не давёў сваіх былых калгаснікаў да жабрацкай торбы (месяцамі не выплочваў ні заробку, ні нават дзяржаўных выдаткаў на дзяцей), стаў кіраўніком раённага дзяржстраху. Трэба заўважыць, што гэты былы - цяперашні кіраўнік, не так даўно праходзіў у судзе па крымінальнай справе па арт. 91 ч.І (крадзеж маёмасці) і атрымаў пакаранне. Праўда, вельмі ўжо памяркоўнае - два гады папраўчых работ з вылічэннем 20% заробку ў даход дзяржавы. І вось Я.Кухарчык зноў у кіруючым крэсле.

Цікава, што гэты «непатапляльны кіраўнік» праславіўся і па яшчэ адной крымінальнай справе. Звязана яна была з кантрабандай праз літоўска-беларускую мяжу вялікай партыі зерня і жывёлы. Але гэтую крымінальную справу, якую на заключным этапе расследавала КГБ, улады закрылі. Матывуючы гэта туманнай фармулёўкай «у сувязі са зменай абставінаў».

Паказальным з'яўляецца яшчэ і тое, што расследаванне па гэтай крымінальнай справе праводзілася амаль адначасова з так званай гучнай справай Паўла Шарамета. Апошні толькі за тое, што паказаў праўдзівы тэлевізійны рэпартаж з літоўска-беларускай мяжы адседзеў больш як два месяцы ў следчым ізалятары і атрымаў два гады зняволення ўмоўна. У першым жа выпадку за непараўнальна больш цяжкае, учыненае Я.Кухарчыкам злачынства (кантрабанду), з галавы былога старшыні калгаса не ўпаў ні адзін ягоны сівы волас. І нашыя ўлады яшчэ кажуць, што ўсе роўныя перад законам?

Аднак адну выснову можна зрабіць упэўнена. Астравецкая ўлада «ўмацавалася» двума безумоўнымі яе аўтарытэтамі, якія, трэба меркаваць, не толькі яе «ўмацоўюць», але і нададуць ёй больш красамоўнае аблічча і такую вельмі сення модную крымінальную рэспектабельнасць. Для галоўнага раённага вертыкальшчыка М. Кудыркі і гарадзенскага ваяводы А.Дубко з гэтым няма аніякага сумневу. А інакш, як разумець тое, што адзін прызначыў такія кадры, а другі даў згоду на падобныя кадравыя прызначэнні?

**Мікола Уласевіч**

## Дапаможам адзін аднаму

**15 жніўня ў Гродне ў гарадскім парку імя Жылібера прайшла дабрачынная акцыя, арганізаваная прафсаюзам прадпрымальнікаў і асобаў, якія працуюць па найму, на рынку «Паўднёвы». Дзецям з маламаёмасных сем'яў раздаваліся шарыкі, цукеркі, марожанае, бясплатныя білеты на каруселі. У гэты ж дзень зранку падобная акцыя адбылася непасрэдна на рынку «Паўднёвы». Акрамя таго, за перыяд з 7 па 15 жніўня дзякуючы акцыі «Наш горад» - а менавіта так называецца гэтае мерапрыемства - болей за 30 мнагадзетных і маламаёмасных сем'яў атрымалі адзенне.**

Паводле словаў аднаго з арганізатараў дабрачыннага мерапрыемства Валерыя Леваневускага, сярод асноўных мэтаў гэтай акцыі - змяненне памылковага ўяўлення некаторых грамадзянаў, якія лічаць прадпрымальнікаў «жулікамі» і «хапугамі». Для прадпрымальнікаў, якія ўдзельнічалі ў акцыі, быў устаноўлены мэтавы ўзнос у памеры 200 000 рублёў з чалавека. Грошы пайшлі на закупку паветраных шарыкаў, цукерак і аплату атракцыёнаў для дзяцей. Падчас акцыі ўсім жадаючым прапаноўвалася здаваць у прафсаюз падтрыманыя, а таксама непатрэбныя новыя рэчы, канцтавары, цацкі, камп'ютэры, электратавары і многае іншае. Усё гэта надалей будзе раздадзена малазабяспечаным грамадзянам, а таксама перададзена ў школы і дзіцячыя дамы.

Учора пачаўся чарговы этап акцыі «Наш горад». У старым корпусе тонкасуконнага камбіната адбылася раздача сабраных рэчаў працоўным.

**Ася Куніцкая**

## Памяці Ларысы Генiюш

**Больш за 50 прыхільнікаў творчасці беларускай паэткі Ларысы Геніюш, якая памерла ў 1983 годзе, адзначылі днямі ў пасёлку Зэльва чарговую гадавіну яе смерці. Праваслаўныя і каталіцкія святары адслужылі Імшу. Над магілай Геніюш лунаў бел-чырвона-белы сцяг, гучалі ўспаміны пра Ларысу Антонаўну, яе няпросты жыццёвы шлях — яна, як вядома, так і не прыняла савецкага грамадзянства.**

Вершы Ларысы Геніюш, якія сталі нацыянальным здабыткам, і яе біяграфія сёлета ўключаныя са школьных праграмаў, як і паэзія Масея Сяднёва — таксама вязня сталінскіх лагераў. Напачатку 90-х гадоў шмат гаварылася аб стварэнні ў Зэльве дома-музея Ларысы Геніюш, аднак сёння хаціна, дзе жыла паэтка, непазнавальна перароблена новымі гаспадарамі.

**Антон Лабовіч**

# І нічога табе, Алесь, за гэта не будзе! Ні каня, ні шашкі, ні «денежного довольствия»...

**Крымінальная справа, выкліканая з'яўленнем брашуры «У Пагоню» з карыкатурамі гарадзенскага мастака Алеся Сурава, заведзеная пракуратурай Ленінскага раёна г.Гродна, закрыта за недастатковасцю доказаў (адбылося гэта 2 ліпеня гэтага года). Аднак спыненне праследу мастака па лініі УУС не стала падставай для спынення праследу па лініі абласной «вертыкалі». Чыноўнікі ад культуры робяць усё, каб пазбавіць яго майстэрні.**

З 1995 года, пасля адпаведнага рашэння гарвыканкама, усе гарадзенскія мастакі аплочваюць арэнду сваіх майстэрняў па тарыфах кватэрнай платы. Так робіцца ва ўсім цывілізаваным свеце. І гэта справядліва, асабліва, калі ў дзяржавы няма іншых магчымасцяў падтрымаць дзеячоў культуры. Штогод дамовы на арэнду творчых майстэрняў пераафармляюцца. Пры гэтым зваравыя спісы мастакоў (бо нехта выбывае ці мяняе адрас). Спісы, падрыхтаваныя ў гарвыканкаме, падаюцца ў аблвыканкам на зацвярджэнне. На гэтай стадыі ў гэтым годзе і было выкраслена прозвішча Сурава. Рашэнне Абласной камісіі па ўпарадкаванню выкарыстання адміністратыўных будынкаў, узначальваемая намеснікам старшыні аблвыканкама М.А.Бяляевым, вынесена ў траўні, якраз у перыяд следства па вядомай справе «об оскорблении чести и достоинства президента».

Хадайніцтва дырэктара Тэатра лялек, дзе Сураў працуе галоўным мастаком, перад начальнікам упраўлення Культуры Гарадзенскага аблвыканкама Л.І. Кадзевіч аб садзейнічанні ў рашэнні дадзенага пытання на карысць мастака вынікаў не дало. «Позна» - рэзюмавала на атрыманым лісце спадарыня Кадзевіч. Наступнае хадайніцтва накіравана непасрэдна на імя М.А.Бяляева. Адказу пакуль няма, хаця ліст зарэгістраваны яшчэ 21-м чэрвеня.

Тым часам быў уключаны механізм рэалізацыі рашэння Камісіі. У пачатку Алесь атрымаў новы разлік аплаты арэнды. Цяпер за майстэрню, агульная плошча якой (разам з калідорам і прыбіральняй) крыху больш за 50 квадратных метраў, яму трэба будзе выплочваць штомесяц суму, эквівалентную 102 далярам ЗША. Гэта ў дзесяць раз больш, чым раней. Потым пайшлі лісты. «Прапануем Вам у трохдзённы тэрмін звярнуцца ў гарвыканкам з заявай аб добраахвотным скасаванні Дамовы (аб арэндзе. - **Рэд.**) і адмове ад займанага памяшкання», - напісаў начальнік ЖЭС-11 спадар Яскевіч мастаку Сураву 13 ліпеня. Пасля таго, як Алесь не здаўся ў добраахвотным парадку, ён атрымаў яшчэ адно пасланне ўжо за подпісам в.а. начальніка ЖРЭУ сп. Ціханава. Той прапанаваў здаць памяшканне на працягу сямі дзён і прыгразіў судом. Тэрмін «последнего китайского предупреждения» скончыўся 14 жніўня. Афіцыйныя органы дагэтуль не зрабілі ніякай спробы выразна патлумачыць, на падставе чаго таленавітаму мастаку адмоўлена ў правах, якімі надзелены ўсе астатнія яго калегі.

**Ніна Палуцкая**

ГРАМАДСТВА

# Рэспектабельная разынка беларускага авангарду

**Яшчэ ў траўні ПАГОНЯ паведамляла пра доўгачаканы выхад шостага нумару літаратурна-мастацкага альманаха «КАЛОСЬСЕ», асобныя публікацыі якога выклікалі неадназначную рэакцыю ў інтэлектуальных колах Беларусі. Прайшоў пэўны час, і я сустрэлася з рэдактарам выдання Юрыем Гуменюком, каб даведацца з першых вуснаў пра некаторыя эпатажныя творы, зазірнуць на «рэдакцыйную кухню» ды проста паразмаўляць пра жыццё і літаратуру.**

***- Мяне, як і кожнага чытача, цікавіць: чаму «КАЛОСЬСЕ» так рэдка выходзіць?***

- Па-першае, гэта вельмі дарагі праект, і ў Таварыства Вольных Літаратараў хапае грошай толькі на адзін нумар у год. Затое альманах мае прыстойны выгляд і яго прыемна патрымаць у руках. А па-другое, добрага ніколі не бывае шмат. Нягледзячы на мізэрны наклад, «КАЛОСЬСЕ» ведаюць у Беларусі і за мяжой. Практычна з кожнага новага нумару асобныя творы перакладаюцца ў Польшчы, Расеі, Летуве, на Украіне...

***- У апошнім нумары публікацыя некаторых рэчаў выклікала калі не скандал, дык шмат пагаласак і плётак. Маю на ўвазе найперш твае ўспаміны «Візуальная тэрапія памяці» і апавяданні Сяргея Астраўца.***

- Адразу абмоўлюся, што ў кожнай з кніжак «КАЛОСЬСЯ» ёсць такія рэчы, якія выклікаюць неадназначную рэакцыю. Так і павінна быць. Інакш ніхто не будзе чытаць. Зрэшты, мы ніколі не ставілі задачу прыцягнення ўвагі да сябе шляхам танных скандалаў. Я чуў, што людзі, якія пазналі сябе ва ўспамінах, назвалі мой опус амаральным і г.д. Мая задача як творцы, была ў праўдзівым узнаўленні атмасферы і падзеяў мінулых гадоў, мастацкім выяўленні постаці заўчасна памерлага паэта Андрэя Пяткевіча. Увогуле, вялікае глупства лічыць той ці іншы мастацкі твор маральным ці амаральным, бо мараль не з'яўляецца катэгорыяй эстэтыкі. Што тычыцца апавяданняў Сяргея Астраўца, дык натуральна, што яны выклікалі ў прасавецкіх пурытанаў негатыўную рэакцыю.

***- Чым адрозніваецца «КАЛОСЬСЕ» ад іншых літаратурных часопісаў? Які ягоны кірунак?***

- Як адзначыў культуролаг Юрась Барысевіч, мы - кансерватыўна-рэспектабельная плынь беларускага авангарду. Вялікая доля праўды ў тым ёсць. Для нас галоўнае самавітасць і таленавітасць. Галоўнае, каб твор быў неардынарным, нават спрэчным адносна агульнапрынятых нормаў. Так, напрыклад, некалі забракаваныя з эстэтычнага гледзішча ў часопісе «Крыніца» апавесці «Як цётка Прузына нацыю шукала» Ігара Сідарука і «Эрагенная зона» Вітаўта Чаропкі атрымалі права на жыццё менавіта ў «КАЛОСЬСІ». Мы першымі надрукавалі ў 1995 годзе успаміны Славаміра Адамовіча «З жыцця грамадзяніна імперыі». Застаецца дадаць, што альманах заўсёды аздоблены цікавымі фотаздымкамі і мастацкай графікай.

***- Давай зазірнем на рэдакцыйную кухню. Дзе робіцца ваш часопіс, бо ў друку яго называюць то полацкім, то гарадзенскім? І, увогуле, як адбіраюцца творы для выдання?***

- «КАЛОСЬСЕ» ад пачатку свайго адраджэння задумвалася як агульнабеларускі часопіс, бо мы разумелі, што інакш не ўдасца выйсці на прыстойны ўзровень. А робіцца ён і ў Гародні, і ў Полацку, і ў Менску - там, дзе жывуць нашыя аўтары. У эпоху камп'ютараў ды Інтэрнэту гэтае пытанне не мае сэнсу. Вядома, мне, як галоўнаму рэдактару часопіса, даводзілася выконваць асноўную тэхнічную працу дзеля таго, каб «КАЛОСЬСЕ» выглядала такім, якім яно ёсць сёння. Спачатку ў тэхнічным плане мне дапамагалі знаёмыя, бо я тады яшчэ не меў камп'ютара, а пасля, убачыўшы ўсе дызайнерскія ды іншыя хібы, самастойна «адпаліраваў» стылі. І - атрымалася вельмі, як кажуць палякі, элеганцкая рэч! Што тычыцца адбору твораў, дык тут няма праблемы. Вакол «КАЛОСЬСЯ» згуртавалася кола сталых аўтараў, якія ствараюць асноўны корпус тэкстаў, нават не патрабуючы ганарару. Усе яны даўно зрабілі сабе імёны, карацей, літаратары-прафесіяналы. З такімі людзьмі прыемна працаваць.



Юрка Гумянюк

***- А што рабіць дэбютантам, якія толькі пачынаюць пісаць?***

- Мы не адмаўляемся і ад дэбютантаў, калі яны добра валодаюць словам. Мы іх самі адсочваем у іншых выданнях і запрашаем да супрацоўніцтва. Бо тое, што дасылаюць, выклікае расчараванне. Людзі не ўмеюць афарміць сваіх думак на пісьме, не валодаюць ані рускай, ані беларускай мовамі...

***- Дзе «КАЛОСЬСЕ» можна набыць ці пачытаць гарадзенцам?***

- Папярэднія кніжкі выдання павінны быць у абласной і універсітэцкай, а таксама ў бібліятэцы Інстытута ўдасканалення настаўнікаў. А шосты нумар «КАЛОСЬСЯ» можна набыць у кнігарні «Слова», якая зараз месціцца ў выставачнай зале Саюза мастакоў на вул. Ажэшкі, ці на першым паверсе па вул. К.Маркса,11, дзе заўсёды дзейнічае выстава беларускіх касетаў і выданняў.

***- Што можна будзе пачытаць у сёмым нумары часопіса?***

- Ён збольшага ўжо набраны і заверстаны. Дасць Бог - увосень выйдзе. Бо, як паведаміў мне выдавец, з'явіліся грошы на выданне. А ў ім: новы сатырычны раман Вітаўта Чаропкі «Поўны керкешоз», п'еса Сяргея Кавалёва «Стомлены д'ябал» (яе ў чэрвені паставілі ў тэатры «Вольная сцэна» ў Менску), апавяданне Вінцэся Мудрова «Нячысцік у фраку», урывак з рамана класіка мадзьярскай літаратуры Ёкая Мора «Сыны чалавека з каменным сэрцам», паэзія Васіля Дзівашэвіча і Леры Сом, развагі пра сучасную літаратуру крытыка Ганны Кісьліцынай і празаіка Лявона Вашко, успаміны Івана Фурсевіча пра ягоную сустрэчу з сасланым на экібастузскую электрастанцыю былым сакратаром ЦК КПСС Георгіем Малянковым, а таксама рэцэнзіі на кніжкі. Карацей кажучы, тое, чаго ў іншых выданнях не знойдзеш.

***- А над чым зараз акрамя часопіса працуе спадар Гумянюк?***

- Уласна ні над чым. Адпачываю, плыву па інэрцыі. У мяне сёлета было тры вялікія публікацыі: дзве падборкі вершаў - у часопісе «Крыніца» N1 і ў «ПАГОНІ» ды вышэйзгаданыя ўспаміны ў «КАЛОСЬСІ» N6. У сёмым нумары надрукую яшчэ нізку вершаў. Гэтага дастаткова, каб засведчыць сваю прысутнасць у беларускім літаратурным агаропісе. У чэрвені я напісаў тэксты песень да спектакля «Пінокіо», які рыхтуецца да пастаноўкі ў Гарадзенскім тэатры лялек. Дарэчы, мяне ўвесь час атакуюць эстрадныя выканаўцы, маўляў, давай тэксты для песень, нават прыносяць гатовую «фанеру».

***- Дык проста выдатна, калі да паэта ідуць...***

- Але гэта вельмі няўдзячная праца падганяць словы пад колькасць тактаў ці перабіраць распеўныя рыфмы. Дый мяне, як стала-га аўтара, ужо не спакусіш тым, што маё прозвішча з'явіцца ў тэлевізійных цітрах ці прагучыць у эфіры. Танная слава мне не патрэбна. У Беларусі ж няма так званага шоу-бізнесу, каб на песнях можна было б добра ўсім: і кампазітару, і паэту, і выканаўцу зарабляць. Дарэчы, на мае вершы створана і запісана(!) каля дваццаці песень, якія выконваюць гурты «Айша»(Jungle X-mes), «Грунвальд» і асобныя выканаўцы, многіх я нават не ведаю асабіста. Тут узнікаюць праблемы з аўтарскімі правамі ды цэлы комплекс іншых праблемаў, якія залежыць ад гаротнага стану эканомікі нашай краіны. Пакуль аўтарскія грошы трапяць на твой рахунак, іх зжарэ інфляцыя. Вось таму многія айчынныя артысты імкнуцца працаваць «за наяўныя» або выехаць на заробкі за мяжу.

***- У цябе няма такога жадання?***

- Як ні дзіўна, няма. Трэба выбіраць: альбо грошы, альбо мастацтва. У мяне ёсць жаданне проста жыць (хацелася б, канешне, прыстойна ды адпаведна статусу творцы), каб займацца мастацтвам дзеля мастацтва.

Гутарыла
Алена Сіневіч

# Курсы валют

**На 18 жніўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:**

даляр ЗША — 275.000 беларускіх рублёў; еўра — 289.093,75; нямецкая марка — 147.811,29; расейскі рубель — 11.105. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра вырас на 1.000 рублёў.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 18 жніўня даляр куплялі па 460.000—465.000 і прадавалі па 470.000—475.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс вырас у сярэднім на 5.000 рублёў.

# Гарачая вада - толькі для багатых!

**З 15 жніўня ў Беларусі на 30 працэнтаў выраслі тарыфы на асобныя віды камунальных паслуг насельніцтву — гарачую ваду і ацяпленне. Пра гэта паведамілі ў камітэце цэн Міністэрства эканомікі краіны. Аблвыканкамам і Менскаму гарвыканкаму даручана прывесці ў адпаведнасць з устаноўленымі каэфіцыентамі тарыфы на камунальныя паслугі.**

Трэба адзначыць, што, згодна з новым Жыллёвым кодэксам Беларусі, пры аплаце за ацяпленне ў разлік будзе брацца не жылая, а агульная плошча кватэры. Памер кватэрнай платы з 1 ліпеня таксама вызначаецца, зыходзячы з агульнай плошчы жылля (каб пазбегнуць яе рэзкага павелічэння, дзеючая стаўка паменшана ў 1,6 раза). Прычым па тарыфу насельніцтва будзе аплачваць плошчу з разліку 20 квадратных метраў на аднаго чалавека і дадаткова 10 метраў на сям'ю, а астатняе — па нарматыўным сабекошце, які будуць вызначаць аблвыканкамы і Менскі гарвыканкам.

Акрамя таго, устаноўленыя штомесячныя адлічэнні на капітальны рамонт у памеры 50 працэнтаў кватэрнай платы. У асобны від плацяжоў выведзена паслуга за карыстанне ліфтам. Ад уплаты вызваляюцца грамадзяне, якія жывуць ніжэй за трэці паверх дамоў, дзе маецца ліфт. Згодна з новым Жыллёвым кодэксам, кватэрная плата і камунальныя плацяжы павінны ўносіцца не пазней за 15 лічбу наступнага месяца (раней — не пазней за 25-е). Урэшце, яшчэ не ўсе жыллёва-эксплуатацыйныя службы перайшлі на новы рэжым працы: паводле звестак, частка грамадзянаў дагэтуль не атрымала рахункі па кватэрнай плаце за ліпень.

«Да канца года будзе ажыццяўляцца паэтапнае павышэнне тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі да ўзроўня 50 працэнтаў затрат прадпрыемстваў ЖКГ па іх аказанню», — пра гэта заявіў намеснік прэм'ер-міністра краіны Барыс Батура ў інтэрв'ю газеце «Звязда» за 17 жніўня. Ён таксама паведаміў, што цяпер насельніцтва ўносіць не больш за 24 працэнты ад усіх выдаткаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Да гэтага трэба дадаць, што існуе катэгорыя асобаў, якія наогул не плацяць за дадзеныя паслугі. Паводле сцвярджэння Б.Батуры, нядаўняе прыняцце новага Жыллёвага кодэкса краіны «прадугледжвае, што жыхары, якія не плацяць за кватэру на працягу паўгода, могуць быць выселеныя па рашэнню суда ў жылое памяшканне меншай плошчы».

Дзмітрый Уласаў

# «Белэнерга» запланаваў доўгую і халодную зіму

**«Надыходзячы асенне-зімовы перыяд 1999-2000 гадоў будзе вызначацца ранняй, працяглай і суровай зімой, дэфіцытам паліва, асабліва газу», - сцвярджаецца ў пісьме-прадпісанні канцэрна «Белэнерга».**

Аднак кіраўнікі, адказныя за цеплазабеспячэнне грамадзянаў краіны, упэўненыя, што не дапусцяць збояў, асабліва на аб'ектах сацыяльнай сферы і ў жылых дамах (Цікава, што гэты канцэрн лічыць, быццам мінулай зімой у нашых кватэрах падтрымліваліся нармальныя ўмовы жыццязабеспячэння. Не ўсе з гэтым пагодзяцца, аднак).

«Белэнерга» прадпісвае прытрымлівацца рэжыма эканоміі, строга выконваць ліміты спажывання. Будзе забаронена нават праца фінскіх лазняў у часы ранішняга і вячэрняга максімума спажывання электраэнергіі. На выхадныя дні і ў непрацоўны час тэмпература ў адміністратыўных і вытворчых памяшканнях не можа быць вышэй за 13-14 С.

Міхась Капялюш

# Ад такога жыцця пілі, пьюць і будуць піць

**Як сведчыць статыстыка, на душу насельніцтва, уключаючы дзяцей, на Гарадзеншчыне прыходзіцца 11 літраў лікёра-гарэлачных вырабаў у год, віна вінаграднага і пладова-ягаднага -13 літраў, піва - 15 літраў. Летась агульная вытворчасць гэтых напоеў склала ў вобласці 7 987 дэкалітраў. У параўнанні з 1995 годам вытворчасць гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў павялічылася на 6,2 працэнта, віна - у 3,3 раза, піва - на 62,7 працэнта.**

Ад выпадковага атручвання алкаголем летась памерла 360 чалавек, у тым ліку 87 жанчын. 75 нябожчыкаў мелі ўзрост ад 20 да 39 гадоў, 125 - ад 40 да 49. 4,9 працэнта пацярпелых на вытворчасці былі на падпітку. А з ліку 32 чалавек, якія загінулі, кожны другі ўжыў алкаголь.




На пачатак бягучага года ў лячэбна-прафілактычных установах вобласці было на ўліку 19,7 тысячы хворых на алкагалізм. Узровень захворваемасці алкагалізмам летась склаў 234,9 чалавека ў разліку на сто тысяч насельніцтва. Гэта ў два разы болей, чым у 1990 годзе. З агульнай колькасці хворых 15,2 працэнта складаюць жанчыны, 8,5 працэнта маюць узрост ад 15 да 19 гадоў. 46,8 працэнта з ліку хворых - жыхары сельскай мясцовасці.

Сцяпан Ярашчук

## Удакладненне

ПАГОНЯ прыносіць прабачэнне супрацоўніцу прыёмнай камісіі Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта Лілію Іванаўну Баброўнік за брыдкае непаразуменне, якое адбылося па віне аўтара артыкула «З абітурыентаў - у студэнты» практыканта газеты Рыгора Кавальчука. Інфармацыя пра апеляцыі абітурыентаў зусім не затойвалася. Па гэтай прычыне, безумоўна, падобная пазіцыя кіраўніцтва прыёмнай камісіі выклікаць падазрэнне, як гэта сказана ў артыкуле, не можа.

# Чым больш грошай - тым горш

**Любое павышэнне заработнай платы ў Беларусі вядзе да новага вітка інфляцыі і, значыць, да абясцэньвання даходаў насельніцтва.**

Калі перыядычнае павышэнне заработнай платы ў Рэспубліцы Беларусь ацэньваць з пункту гледжання наміналнай значнасці і рэальнай вагі, то можна зрабіць наступную выснову. Ідзе працэс пастаяннага падцягвання даходаў працоўнага насельніцтва да ўзроўня інфляцыі. Аднак інфляцыя, на жаль, увесь час апярэджвае рост заработнай платы і ўсіх відаў сацыяльных выплатаў.

Згодна з дадзенымі Міністэрства статыстыкі і аналізу, спажывецкія цэны за студзень-ліпень 1999 года ўзраслі на 97,2 працэнта. Такую з'яву інакш як галапіруючай інфляцыяй не назавеш. Гэта пацвярджае і параўнанне з дадзенымі мінулага года. Інфляцыя ў ліпені 1998 года складала 2,8 працэнта, а за першыя сем месяцаў гэтага года - 25,3 працэнта. Значыць, тэмпы інфляцыі ў гэтым годзе амаль у чатыры разы вышэйшыя, чым за такі ж перыяд мінулага года.

У гэтых умовах дзяржаўныя чыноўнікі ўсё часцей гавораць пра хуткае павышэнне заработнай платы. Першым выказаўся старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч. Аднак яго прапанова выклікала здзіўленне, бо эмісіраваць грошы давядзецца нікому іншаму, як Нацбанку. А эмісія, якая ў беларускіх умовах не забяспечана таварамі, як вядома, з'явіцца падставай для далейшага росту цэнаў, што ў сваю чаргу патрабуе чарговага павышэння заробку.

Радыкальныя прапановы па гэтаму пытанню прагучалі і з вуснаў кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў. Сутнасць іх у тым, каб мінімальная заработная плата была падвышана да ўзроўня пражыткавага мінімума, і тым самым перастала быць толькі разліковай катэгорыяй. Другое патрабаванне прафсаюзаў заключаецца ў тым, каб паслабіць неапраўданую дыферэнцыяцыю заробку, з аднаго боку, паміж аплатай працы ў рэальнай эканоміцы і ў бюджэтнай сферы; а з другога - паміж высокааплочваемай (канешне, па беларускіх мерках) і нізкааплочваемай працай. Наколькі сур'ёзнай з'яўляецца гэтая праблема, бачна з дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналізу. Сярэдні заробак працоўных прамысловасці ў чэрвені дасягаў 20,3 мільёна рублёў, у будаўніцтве - 22,1 мільёна, а працоўных сувязі і лясной гаспадаркі - 16,8 мільёна рублёў, працоўных саўгасаў - толькі 11,3 мільёна, калгаснікаў -9,4 мільёна рублёў. Яшчэ большы разбег назіраецца ва ўзроўнях заработнай платы ў невытворчай сферы. Банкаўскія служачыя ў чэрвені атрымалі сярэдні заробак 41,3 мільёна рублёў, а служачыя ўстановаў сацыяльнай забяспекі - 10,9 мільёна.

Іншыя прадстаўнікі кіраўніцтва краіны, акрамя П.Пракаповіча, пакуль не выказаліся пра магчымыя тэрміны і памеры павышэння мінімальнага заробку. Але, згодна з нашымі звесткамі, падрыхтоўка да гэтага вядзецца. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца і прыняцце дзвюх пастановаў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь* 20 ліпеня - «Аб мінімальных спажывецкіх бюджэтах для розных сацыяльна-дэмаграфічных групаў насельніцтва» N90 і другога жніўня - «Аб зацвярджэнні бюджэта пражыткавага мінімума ў сярэднім на душу насельніцтва і па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах у цэнах чэрвеня 1999 года».

Сёння, акрамя вышэйназваных, ёсць яшчэ і трэці нарматыўны паказчык, які звязаны з заработнай платай і даходамі сем'яў, - мінімальны заробак (калі пакінуць за межамі разгляду слабую ўспрымальнасць простымі працаўнікамі адрозненняў паміж мінімальным спажывецкім бюджэтам і бюджэтам пражыткавага мінімума). Зараз гэтыя паказчыкі не толькі размежаваныя, але і колькасна вызначаны ў разліку на месяц і ў сярэднедушавым значэнні.

Першы паказчык - у разліку на сям'ю з чатырох асобаў і з улікам полаўзроставых катэгорыяў грамадзянаў. Другі (бюджэт пражыткавага мінімума) - у сярэднім на душу насельніцтва для працаздольных, пенсіянераў, студэнтаў і дзяцей; гэта значыць, па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах. У колькасным значэнні мінімальны спажывецкі бюджэт у сярэднім на душу насельніцтва роўны 15,9 мільёнам, а пражытковы мінімум - 10,7 мільёнам рублёў. Што з гэтага вынікае? Па-першае, праглядаецца, што ідзе падрыхтоўка да вызначэння канцэпцыі заработнай платы. Па-другое, павышаць сёння заробак без уліку ўжо вызначаных параметраў спажывецкага бюджэта і бюджэта пражыткавага мінімума практычна немагчыма.

Наступнае павышэнне заробку павінна ўлічваць вопыт павышэння іншых даходаў насельніцтва, напрыклад, пенсіяў. Нельга дапусціць, каб павышэнне пенсіяў і заробку ўвесь час даганяла хутка набіраючую тэмпы інфляцыю, бо гэта неэфектыўна. Неабходнасць павышэння заработнай платы абумоўлена ўсёй сукупнасцю вытворчых працэсаў, якія назіраюцца ў эканоміцы краіны. Напрыклад, у пачатку жніўня афіцыйныя ўлады паведамілі, што ўборка ўраджая перакрочыла «экватар». Нечаканасцю ў гэтым паведамленні стала тое, што намалочана толькі 2,5 мільёна тон зерня. Сярэдняя ўраджайнасць упала да 19 цэнтнераў з гектара. Калі ўлічыць, што намалочанае зерне - бункернае, і пасля яго ачысткі збор будзе істотна меншым, атрымліваецца, што агульны збор зерня чакаецца толькі ў межах 4-4,5 мільёнаў тон, а не шэсць мільёнаў, як было заяўлена на селектарнай нарадзе ў пачатку ўборкі.

Сітуацыя на хлебным рынку краіны складваецца такім чынам, што давядзецца закупаць за мяжой каля двух мільёнаў тон харчовага і фуражнага зерня. І перамовы наконт гэтага ўжо вядуцца. Усё гэта сказваецца на цэнаўтварэнні на хлеб. У пачатку жніўня хлеба-булачныя вырабы ўжо падаражалі. Яшчэ ў канцы ліпеня хлеб сярэдніх па якасці гатункаў каштаваў у межах 30-ці тысяч рублёў за бохан, зараз - на 10-12 тысяч даражэй, а цана хлеба высокай якасці пераваліла за 80 тысяч рублёў. З вышэйсказанага можна зрабіць выснову, што рост цэнаў на асноўныя прадукты харчавання патрабуе павышэння ўсіх даходаў насельніцтва, і перш за ўсё - заработнай платы.

Асаблівасці сёлетняга сельскагаспадарчага года абумовілі непазбежны дэфіцыт прадукцыі жывёлагадоўлі. За першае паўгоддзе вытворчасць малака і мяса ў краіне скарацілася прыкладна на 10 працэнтаў. На 200 тысяч галоваў зменшылася пагалоўе буйной рагатай жывёлы. У гэтых умовах чакаць насычэння ўнутранага рынку мяса-малочнымі прадуктамі безнадзейна. Як вынік, рост цэнаў непазбежны. Нізкая ўраджайнасць ставіць сельскіх працаўнікоў перад выбарам: ці прадаваць зерне дзяржаве, ці ратаваць ад голаду жывёлу? Вырашэнне гэтай дылемы ў любым выпадку цягне за сабой рост цэнаў на жывёлагадоўчую прадукцыю, а, значыць, і наступнае павышэнне заработнай платы.

Такім з'яўляецца сёння замкнутае кола, у якім апынулася беларуская дзяржава.

**Уладзімір Кулажанка,**
**доктар эканамічных навук**

# Няўжо аўтамабілістаў ізноў узрадуюць новымі пошлінамі?

**Рашэннем Дзяржаўнага мытнага камітэта Расейскай Федэрацыі ў пачатку наступнага месяца ўводзяцца новыя мытныя пошліны на легкавыя аўтамабілі, значна ніжэйшыя за тыя, што дзейнічаюць зараз.**

Новы памер мытных пошлінаў ва ўсходняга суседа будзе складаць: 0,85 еўра за адзін кубічны сантыметр рухавіка для аўтамабіляў з аб'ёмам рухавіка да 2500 сантымераў кубічных і 1,4 еўра для аўтамабіляў з аб'ёмам рухавіка больш за 2500 сантымераў кубічных.

Зніжэнне мытных пошлінаў у Расейскай Федэрацыі да вышэйадзначанага ўзроўня, на наш погляд, адаб'ецца на памеры мытных пошлінаў на легкавыя аўтамабілі ў краінах мытнага саюза: Беларусі, Казахстане, Таджыкістане. Нагадаем, што ў нашай рэспубліцы з канца сакавіка бягучага года дзейнічаюць мытныя пошліны ў памеры 0,3 і 0,5 еўра за адзін сантыметр кубічны рухавіка: адпаведна для аўтамабіляў з аб'ёмам рухавіка да і пасля 2500 сантымераў кубічных. Прычым для легкавых аўтамабіляў, якім болей як дзесяць гадоў, незалежна ад «кубатуры» мытная пошліна спаганяецца, выходзячы са стаўкі 0,5 еўра за адзін сантыметр кубічны рухавіка. Аднак, нягледзячы нават на параўнальна нядаўняе змяненне мытных пошлінаў у Беларусі, можа здарыцца так, што аднойчы нашы грамадзяне могуць прачнуцца з расейскім узроўнем мытных пошлінаў на легкавыя аўтамабілі. Справа ў тым, што 2-га жніўня адбылася сустрэча кіраўнікоў мытных камітэтаў Рэспублікі Беларусі ды Расейскай Федэрацыі. Як нам стала вядома, сярод мноства пытанняў абмяркоўвалася і такое, як уніфікацыя (поўная) мытнага заканадаўства абедзвюх дзяржаваў. І хоць афіцыйных паведамленняў не было, сам факт заслугоўвае, на наш погляд, пільнай увагі.

На буйнейшых аўтамабільных рынках краіны ў Менску і Гродне звестку пра будучае змяненне мытных пошлінаў у Расіі прадаўцы і пакупнікі аўтамабіляў успрынялі спакойна. У гутарках з аўтамабілістамі мы зразумелі, што ажыўленне на аўтарынках яны звязваюць толькі з дабрабытам суайчыннікаў. Што да пошлінаў, то ў Гродне на апошнім аўтарынку расіянаў было толькі чацвёра. А ў Менску, хаця расіянаў і шмат, але яны так і пакідаюць «базар» патэнцыйнымі пакупнікамі.

За чатыры з невялікім месяцы з апошняга нашага агляду становішча справаў на аўтарынках рэспублікі моцна не змянілася. Попыт і прапанова засталіся на тым жа ўзроўні. Машыны таннеюць, гэта і зразумела - старэе тэхніка. Хоць адны маркі аўтамабіляў старэюць і таннеюць «чамусьці» значна хутчэй за іншыя (**глядзіце табліцу**).

У табліцы пададзены зводныя прапановы на продаж на аўтамабільных рынках Гродна і Менска, бо розніцы ў коштах амаль няма. Адзінае, што ў сталіцы значна больш выбар машын прадстаўнічага класу, і ў гэтай катэгорыі коштаў мы арыентаваліся на Менскі аўтарынак. З нашага красавіцкага агляду цэны на аўтамабілі аналагічнай маркі, мадэлі, стану, году выпуску, наяўнасці «растаможкі» знізіліся: на Audi - у сярэднім на шэсць-сем працэнтаў, на BMW - тры-чатыры працэнты, на Mazda - сем-восем працэнтаў, на Mercedes - тры-чатыры працэнты, на Ford і Opel -восем-дзевяць працэнтаў, на Volvo, Fiat і Toyota на пяць-шэсць працэнтаў, а на Volkswagen - дзевяць-дзесяць працэнтаў.

Колькасць прадстаўленых на продаж растаможаных аўтамабіляў пераўзыходзіла нерастаможаныя болей чым у два разы. Пры чым, з пункту гледжання пакупніка больш выгадна было купляць аўтамабіль да 5000 у.а., ужо растаможаны. Напрыклад, Audi-100 1984 года выпуску - за 2300 у.а. Тады як аналагічны нерастаможаны аўтамабіль каштаваў 1600 у.а., што з улікам пошліны і збору ў ДАІ значна вышэй за 2300 у.а. Калі купляць трэба было больш дарагую машыну, дык сітуацыя выглядала процілеглым чынам. Напрыклад, нерастаможаны Lincoln continental 1993 года выпуску каштаваў 7900 у.а., калі побач аналагічны растаможаны - 12500 у.а. Хаця ўсё «афармленне» на беларускія нумары склала б крыху больш за 2000 у.а.

Паводле дадзеных фірмы «Artkes», якая спецыялізуецца ў аўтабізнесе, у асноўным прадаюцца аўтамабілі да 3000 у.а., а таксама аўтамашыны не старэйшыя 1990 года выпуску, як растаможаныя, так і нерастаможаныя. Прадаць жа аўтамабіль 1986-1989 года выпуску зараз найбольш цяжка. Асабліва калі ваш жалезны конь каштуе болей чым 3000 у.а.

Апошняя «навіна», якая абмяркоўваецца сярод аўтааматараў - гэта ўмацаванне нямецкай маркі і еўра ў адносінах да даляра ЗША. На 6 жніўня за «Вашынгтона» давалі 1,82 нямецкай маркі, замест 1,93 16 ліпеня бягучага года. Умацаванне еўрапейскіх валют, калі яно будзе працягвацца бліжэйшым часам, можа злёгку прыпыніць зніжэнне коштаў на германскі і другі еўрапейскі аўтамабільны імпарт. Уплыву ж змяненняў у мытных пошлінах Расіі на кошты аўтамабіляў не заўважана. Можа, гэта адбудзецца пасля ўніфікацыі «растаможкі» з Беларуссю. Бо пры ўзроўні будучых расейскіх мытных пошлінаў у нашай дзяржаве колькасць новых імпартных аўтамабіляў павінна значна паменшыцца. Акрамя таго, хто ж з грамадзянаў Беларусі будзе плаціць за «афармленне» машыны па 3000 даляраў, калі за год сярэднестатыстычны беларус атрымлівае менш як 500 даляраў? На нашу думку, лічаныя суайчыннікі адважацца на такі крок.

**Сяргей Міронаў**

**Табліца**

| Марка і мадэль аўтамабіля | Год выпуску | Растам. ці не | Кошт |
|---|---|---|---|
| Audi 80 | 1981 | - | 800 |
| Audi 80 | 1984 | + | 1900 |
| Audi 80 | 1991 | + | 4900 |
| Audi 100 | 1984 | - | 1600 |
| Audi 100 | 1984 | + | 2300 |
| Audi 100 | 1990 | + | 4000 |
| Audi 100 | 1993 | + | 7900 |
| Audi 200 | 1985 | - | 2000 |
| Audi 5000 | 1986 | + | 3900 |
| Audi A6 | 1996 | - | 10000 |
| Audi A6 | 1998 | + | 19000 |
| BMW 320 | 1991 | + | 7000 |
| BMW 520 | 1989 | - | 3900 |
| BMW 520 | 1991 | + | 5200 |
| BMW 525 | 1988 | + | 4300 |
| BMW 530 | 1992 | + | 8000 |
| BMW 530 | 1993 | - | 6000 |
| BMW 535 | 1993 | + | 10000 |
| BMW 730 | 1993 | + | 10500 |
| BMW 730 | 1994 | + | 11000 |
| BMW 735 | 1992 | + | 10000 |
| BMW 740 | 1996 | + | 25000 |
| BMW 740 | 1997 | + | 30000 |
| BMW 750 | 1992 | + | 11500 |
| BMW 850 | 1993 | + | 20000 |
| Ford Escort | 1999 | + | 8900 |
| Ford Fiesta | 1992 | - | 2700 |
| Ford Mondeo | 1995 | + | 5800 |
| Ford Mondeo | 1997 | + | 7500 |
| Ford Orion | 1990 | - | 1900 |
| Ford Scorpio | 1986 | + | 2000 |
| Ford Scorpio | 1987 | + | 2300 |
| Ford Scorpio | 1989 | + | 3200 |
| Ford Sierra | 1987 | + | 2000 |
| Ford Sierra | 1991 | + | 3100 |
| Mazda 626 | 1989 | + | 2900 |
| Mazda 626 | 1993 | + | 5000 |
| Mazda 626 | 1996 | + | 6300 |
| Mercedes 200 | 1983 | + | 2000 |
| Mercedes 200 | 1984 | + | 2200 |
| Mercedes 200 | 1989 | + | 5000 |
| Mercedes 200 | 1992 | + | 8000 |
| Mercedes 300 E | 1991 | + | 10000 |
| Mercedes 500 S | 1985 | + | 6900 |
| Mercedes 600 S | 1992 | + | 16500 |
| Opel Astra | 1993 | - | 4900 |
| Opel Vectra | 1992 | + | 5500 |
| Opel Omega | 1991 | + | 3900 |
| VW Golf | 1989 | - | 2000 |
| VW Golf | 1994 | + | 5900 |
| VW Passat | 1988 | - | 1900 |
| VW Transit | 1984 | + | 2500 |
| VW Vento | 1993 | + | 4990 |

# Прыватызацыя працягнута і для грамадзянаў

**ПАГОНЯ працягвае тэму прыватызацыі (N47 (424) і N49 (426) ад 27 ліпеня і 5 жніўня 1999 года адпаведна). Сёння размова пойдзе пра прыватызацыйныя магчымасці простых грамадзянаў.**

Нагадаем, што Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25.06.99 г. у нашай дзяржаве прыватызацыя падоўжана да першага ліпеня 2002 года, а магчымае пагашэнне іменных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць» - да 30 чэрвеня 2004 года. Для выканання вышэйназванай пастановы Старшыня Камітэта па распараджэнню акцыямі Міндзяржмаёмасці В.Магілявец зацвердзіў новы спіс адкрытых акцыянерных таварыстваў. Іх акцыі з 10 жніўня 1999 года па 10 лютага 2000 года грамадзяне Рэспублікі Беларусь могуць абмяняць на іменныя прыватызацыйныя чэкі ў ААБ «Беларусбанк».

Спіс N15 (так названы зацверджаны спіс) уключае 64 адкрытыя акцыянерныя таварыствы (ААТ). Сярод іх такія вядомыя ў рэспубліцы прадпрыемствы, як Віцебскі прыборабудаўнічы завод, Рэчыцадрэў, Пінскае прамыслова-гандлёвае аб'яднанне «Палессе», Гарадзенскае ААТ «Белкард» і Барысаўскае ААТ «Барысаўдрэў».

Згодна з меркаваннямі спецыялістаў, акцыі вышэйназваных ААТ - найлепшыя з прапанаваных на сённяшні дзень пры абмене на іменныя прыватызацыйныя чэкі.

Сёння ў ААБ «Беларусбанк» для абмена чэкаў «Маёмасць» таксама прапануюцца акцыі васьмі ААТ Гарадзенскай вобласці (+ «Белкард»). Адзін чэк можна абмяняць на адну акцыю «Спецмантажбуд-178» пры намінальным кошце акцыі 150 тысяч рублёў; два чэкі на адну акцыю «Радыётэхнікі» горада Ашмяны або «Гродна-мантажаўтаматыка», або шчучынскае «Хлебапрыёмнае прадпрыемства» пры намінальным кошце акцыяў 5; 300 і 300 тысяч адпаведна. Акцыі «Мастоўдрэў», «Гарадзенскі дрэваапрацоўчы камбінат» і «Роскі камбікормавы завод» абменьваюцца на чатыры іменныя прыватызацыйныя чэкі (намінальны кошт 512; 10 і 140 тысяч). А акцыі ААТ «Белкард» і ААТ «Гарадзенскі камбінат будматэрыялаў» абменьваюцца адна да 20 чэкаў пры намінальным кошце кожнай акцыі 50 тысяч рублёў.

На наш погляд, кошт усіх без выключэння акцыяў ААТ са спісу N15 вельмі заніжаны. Тым не менш, лепей усё ж абменьваць свае іменныя прыватызацыйныя чэкі «Маёмасць» на акцыі прадпрыемстваў і мець хоць нейкія дывідэнды ад «беларускай прыватызацыі», чым чакаць чэрвень 2000 года і спадзявацца на магчымасць атрымаць праз пяць гадоў наяўныя рублі. Згодна з нашымі прагнозамі, сума будзе эквівалентнай чатыром далярам ЗША за 100 іменныя прыватызацыйныя чэкі ў 2004 годзе.

На заканчэнне мы нагадваем нашым чытачам, што афармленне дакументаў для абмена чэкаў «Маёмасць» на акцыі ААТ адбываецца ў раённых філіялах ААБ «Беларусбанк» па месцу жыхарства грамадзяніна. Таксама заўважым, што для абмена на акцыі прадпрыемстваў, якія прыватызуюцца, прымаюцца чэкі, налічаныя грамадзянам, атрыманыя ў спадчыну, пераафармленыя грамадзянам ад сваякоў і г. д., але не болей за 250 чэкаў сумарна на працягу ўсяго перыяда бязвыплатнай прыватызацыі.

**Кацярына Зволін**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# Беларускі Фронт - беларуская палітыка

## Дачыненьні Расеі

Усе расейскія палітычныя сілы і палітыкі адзіныя ў імкненьні далучыць («інтэграваць») Беларусь у Расею. «Палітычная Расея» стаіць на імпэрскіх пазыцыях. У 1994 годзе расейскія спэцслужбы, пракамуністычныя і праімпэрскія колы зрабілі стаўку на А.Лукашэнку ў Беларусі, дапамагалі яму ўзяць і ўмацаваць уладу, а ў 1996 годзе -зрабіць канстытуцыйны дзяржаўны пераварот. Пачалася палітыка інкарпарацыі Беларусі ў Расею.

У 1996-97 гадах інкарпарацыю ўдалося стрымаць, дзякуючы адчайнаму супраціўленьню беларускай нацыянальна-вызвольнай апазыцыі ды супярэчнасьцям унутрырасейскай палітычнай барацьбы.

Пасьля 1997 года ў расейскіх палітычных структурах, зьвязаных зь бізнэсам і эканамічнымі рэформамі, узьнікла думка замяніць Лукашэнку на іншага, больш прадказальнага і лібэральнага стаўленіка з іміджам дэмакрата. Мэтад - выбары. Таму неабходна было выключыць фактары рызыкі: разбурыць беларускія нацыянальна-вызвольныя арганізацыі (найперш - БНФ), выцесьніць, скампраметаваць ці «нэйтралізаваць» лідэраў і магчымых супернікаў на выбарах.

Першы сур`ёзны праект у гэтым накірунку - апазыцыйныя выбары прэзыдэнта Беларусі. Галоўная задача - разбурыць нацыянальна-вызвольны рух, зганьбіць кіраўнікоў, увесьці ў інфармацыйную сьвядомасьць імёны новых «лідэраў» і зарыентаваць яе на намэнклятурную апазыцыю.

Мэханізм дзеяньняў стаў галоўны лёзунг апазыцыі - «адзінства ўсіх дэмакратычных сілаў» (без вызначэньня нацыянальных прынцыпаў і нацыянальнай пэрспэктывы).

Праект праваліўся ў выніку жорсткай барацьбы і шэрагу выпадковасьцяў, але разбуральныя вынікі яго - велізарныя. Яны выклікалі раскол у Беларускім Народным Фронце.

## Дычыненьні Захаду

Захаду было б дастаткова бачыць Беларусь як больш-менш стабільную краіну з прадказальнай уладаю і палітыкай, дзе ёсьць элемэнтарная павага да законнасьці ды асноўных прынцыпаў дэмакратыі. Астатняе -пытаньне развіцьця і ўзаемных стасункаў. «Астатняе» - цяпер Захад мала цікавіць.

Захад абыякавы да нашых беларускіх нацыянальных праблемаў. (Невялікія разыходжаньні паміж больш радыкальнай («прабеларускай») пазыцыяй ЗША і памяркоўнай («канфармісцкай») пазыцыяй Эўропы - ролі не адыгрываюць). Акрамя таго, Захад ня хоча турбаваць Расею. Таму заходняя салідарнасьць зарыентаваная на кантакты і на падтрымку ня больш моцнага, пэрспэктыўнага і пагрунтаванага ў масах беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, а на слабую, але канфармісцкую (не антырасейскую) каляніяльную апазыцыю.

Уплыў на разьвіцьцё дэмакратыі ў Беларусі Захад ажыцьцяўляе найперш праз розныя дапамогавыя фонды і арганізацыі, якія выдаткоўваюць грашовыя гранты недзяржаўным пад пэўныя праграмы. Утварылася цэлая сетка недзяржаўных дэмакратычных арганізацыяў (НДА), створаных пад заходнюю дапамогу і пад патрабаваньні грантадаўцаў.

Дзейнасьць па ўтварэньні і падтрымцы НДА мае і станоўчыя, і адмоўныя вынікі: пашырае дэмакратычныя ідэі, асьвету, інфармацыю, друк, дапамагае вучыцца і працаваць і адначасна - плодзіць ілюзіі, імітатараў, развальвае беларускія палітычныя арганізацыі, разбэшчвае людзей.

## Недзяржаўны («незалежны») друк

Амаль увесь недзяржаўны пэрыядычны грамадзска-палітычны друк на Беларусі ў той ці іншай ступені настроены апазыцыйна да рэжыму Лукашэнкі. Амаль увесь ён адлюстроўвае погляды каляніяльнай апазыцыі і ў асобных выданьнях пасьлядоўна варожы беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху (найперш - БНФ). Амаль увесь ён, поўнасьцю ці часткова, друкуецца на расейскай мове.

Толькі некалькі нешматнакладных газэтаў, што выдаюцца ня ў Менску, адлюстроўваюць пазыцыі нацыянальна-вызвольнага руху, прыхільныя да БНФ і друкуюцца па-беларуску.

## Беларускі Народны Фронт

Беларускі Народны Фронт сваім зьместам, ідэялёгіяй і структурай адлюстроўвае рэальнае грамадзкае становішча беларускай нацыі. Беларускае грамадзтва зараз, у канцы XX стагодзьдзя, павінна вырашаць ня толькі праблемы постсавецкія, посткамуністычныя (пытаньні ўлады), але і посткаляніяльныя, якія не былі вырашаныя ў 1918 годзе (праблема беларускай мовы, беларускай нацыянальнай сьвядомасьці, беларускіх школаў, гісторыі і г. д.). Таму Фронт, па сутнасьці, ёсьць і грамадзкая, і палітычная арганізацыя адначасова, займаецца і культурніцтвам, і палітыкай, ёсьць адначасна і партыяй, і рухам, мае два Статуты і здвоеныя сілы. У гэтым моц БНФ.

Зь існаваньнем і дзейнасьцю Народнага Фронту зьвязана адраджэньне незалежнасьці і нацыянальная будучыня Беларусі. Пачынаючы з 1988 года, антыбеларускія сілы ўсімі сродкамі змагаюцца супраць Фронту. Стратэгічна вызначаны два накірункі палітычнага зьнішчэньня БНФ:

- стварэньне адмоўнага адваротнага іміджу арганізацыі і кіраўніку Фронту;
- раскол арганізацыі.

Але раскол арганізацыі можна было ажыцьцявіць толькі знутры. Усе спробы разбурыць Фронт нічога не далі, пакуль не пачалося беспрынцыпнае ўзаемадзеяньне з каляніяльнай апазыцыяй. Травеньская выбарчая авантура намэнклятурнай апазыцыі (фальсыфікацыя галасаваньня) і рашучы выхад зь яе сяброў БНФ сталі пачаткам рэальнага падзелу Фронту, паказалі, наколькі глыбока адбылося пранікненьне ў Фронт іншых прынцыпаў ды іншага сьветапогляду, а зь імі - іншай этыкі ды іншых паводзінаў.

VI Зьезд БНФ (31 ліпеня - 1 жніўня гэтага году) засьведчыў падзел Фронту на дзьве паловы і дзьве пазыцыі, якія ўмоўна можна назваць так: грамадзкая пазытывісцкая (Л.Баршчэўскі, В.Вячорка, В.Івашкевіч, А.Бяляцкі, Ю.Хадыка, М.Баўсюк ды інш.) і палітычная кансэрватыўная (Ю.Беленькі, З.Пазьняк, У.Старчанка, А.Крываротт, М.Анцыповіч, С.Папкоў ды інш.). Агульныя зьяўляюцца ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Словы аб адзінстве Фронту ў гэтай сытуацыі выяўляюць трывогу перад яго разбурэньнем і гавораць пра разуменьне неабходнасьці адзінства, але ранейшай еднасьці ўжо не прадугледжваюць. Яе няма. Існуе (створана, зроблена) іншая рэальнасьць, іншыя дачыненьні. Павінна быць іншае адзінства.

## Новае адзінства

Іншага адзінства неабходна дасягнуць як найхутчэй. Пакіну ў баку, хто рыхтаваў раскол, дзеля чаго, як, зь якімі мэтамі ды ўвогуле маральна-палітычныя ацэнкі таго, што сталася. Зыходжу з рэальнасьці.

Беларускі Народны Фронт ёсьць ужо падзелены. Адзінай арганізацыяй (з адзінай структурай і адзіным кіраўніцтвам) ён ужо не застанецца, а калі застанецца, дык нармальна дзейнічаць ня зможа і расколецца з больш разбуральнымі вынікамі і большай стратай часу.

У гэтай сытуацыі старшыня Фронту, згодна Статуту БНФ, быў выбраны на VI-м Зьезьдзе зь перавагай толькі ў чатыры галасы (прытым, канфліктуючы бок заявіў, што не прызнае яго выбраньня). Вось адлюстраваньне становішча.

Істотныя ня толькі розныя пазыцыі ды аб'ектыўныя фактары, але і ўзаемадачыненьні. Бальшыня фронтаўскіх крытыкаў ня ўмелі паводзіць сябе ў палітычным канфлікце: былі публічна сказаныя словы нянавісьці і зьняваг, скарыстаныя мэтады з арсэналу «разбораў» намэнклятуры і прыёмаў бясслаўнай травеньскай прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі.

Наступствы такіх дачыненьняў адразу не зьнікаюць нават на адлегласьці, тым больш, што яны зыходзяць з розных групаў і з розных поглядаў на дзейнасьць і задачы БНФ. Калі ў 1995 годзе пастаноўка пытаньня аб расколе Фронта на партыю і рух выглядала штучна, зыходзіла толькі з амбіцыяў вельмі вузкага кола асобаў, то зараз, праз чатыры гады развальнай працы (ня толькі гэтых асобаў), становішча кардынальна згоршала.

Вопыт і жыцьцёвыя прыклады паказваюць, што ў сытуацыі пазыцыйнага і арганізацыйнага падзелу былое адзінства арганізацыі ўтрымаць ужо немагчыма. Штучнае стрымліваньне прывядзе да катастрофы. Трэба зыходзіць з таго адзінства, якое засталося - з адзінства беларускай нацыянальнай ідэі, адраджэнскіх прынцыпаў і мэты. Трэба замацаваць гэтае адзінства ў новай сыстэмна-структурнай арганізацыі БНФ.

Неабходна прызнаць пазытывісцкую плятформу, зарыентаваную на НДА і на грамадзкую дзейнасьць, і даць ёй магчымасьць арганізацыйна афарміцца. За гэтай пазыцыяй стаіць меншая колькасьць фронтаўцаў. (Падзел на Зьезьдзе - амаль напалову). Трэба прызнаць яе як частку Народнага Фронту, прызнаць за ёй Статут БНФ і права дзейнічаць згодна Статуту (выбары кіраўніцтва, стварэньне структураў і г. д.).

Кансэрватыўная пазыцыя ў БНФ (зарыентаваная на традыцыйныя каштоўнасьці і на канцэптуальную палітычную дзейнасьць) арганізацыйна афармляецца як партыйная частка Народнага Фронту. За ёй прызнаецца Статут Партыі БНФ і права дзейнічаць згодна Статуту (выбары кіраўніцтва, стварэньне структураў і г. д.).

Абедзьве часткі БНФ існуюць як самастойныя арганізацыі і ўтвараюць кааліцыю Беларускага Народнага Фронту. Кааліцыя БНФ ня ёсьць асобнай арганізацыяй, ня мае агульнага Статуту і супрацоўнічае на падставе дамоўленасьці. Каардынацыя працы адбываецца праз Кансультатыўную Нараду, куды ўваходзяць старшыні і прадстаўнікі абедзьвюх арганізацыяў. Пастаянны старшыня Кансультатыўнай Нарады не выбіраецца. Нарада можа зьбірацца ў любы час па меры неабходнасьці. Для рэгулярнага абмену інфармацыяй Нарада зьбіраецца не радзей, чым адзін раз у месяц.

Прапанаваная новая структурная сыстэма БНФ як Кааліцыя адраджэнскіх вызвольных арганізацыяў адлюстроўвае сытуацыю, дае магчымасьць хутка, бязь юрыдычных і арганізацыйных цяжкасьцяў, апанаваць становішча, спыніць паглыбленьне расколу і наладзіць скаардынаваную працу.

Пры такім падыходзе, калі асобныя арганізацыі дзейнічаюць як кааліцыя, застаецца агульная, ужо зацьверджаная сымболіка, агульныя офісы і штаб-кватэры і нават некаторыя агульныя камісіі (напрыклад, па экалёгіі, па культуры ды інш.).

Ня ўзьнікне тэхнічных праблемаў з удзелам у выбарах, бо кааліцыя БНФ ужо будзе існаваць (гэта гатовы выбарчы блёк). Да таго ж, да яе могуць далучыцца іншыя самастойныя нацыянальна-вызвольныя і культурніцкія арганізацыі. Зьяўляецца магчымасьць стварыць скаардынаваны адраджэнскі нацыянальна-вызвольны блёк, разьвітацца з канфармізмам і спыніць каляніяльную дэмагогію пра «объединение всех демократических сил». Кааліцыя нацыянальна-вызвольных арганізацыяў можа каардынавацца тады з усёй намэнклятурна-дэмакратычнай апазыцыяй па схеме «1-1», а не «1-35», як увесь час хацелася каляніяльным камбінатарам, спэцслужбам і творцам фантомаў.

Адным словам, у нас ёсьць магчымасьць накіраваць сілу ўдара па Фронту супраць тых, хто наносіць удар, ператварыць раскол з фактару распаду і самазьнішчэньня ў фактар згуртаваньня на іншым сыстэмным узроўні.

Неабходную падрыхтоўчую працу трэба зрабіць да першага верасьня, і на другім паседжаньні Зьезду адразу вырашыць усе фармальныя пытаньні па абдуманым разьмежаваньні і згуртаваньні (стварэньне кааліцыі БНФ).

Калі прыйсьці на Зьезд, не дамовіўшыся аб стваральным выніку, то вынік можа быць разбуральным, выключыць Фронт з нармальнай грамадзка-палітычнай працы на доўгі час і прывядзе да вялікіх стратаў.

Моладзь, калі ўзьнікае неабходнасьць, можа абараніць Радзіму нават цаной самаахвяраваньня. Але грамадзтва павінна берагчы моладзь.

Сур'ёзная, пасьлядоўная палітычная дзейнасьць вымагае вопыту, псыхалягічнай сьпеласьці, наяўнай адукацыі (цэнзу), становішча ў грамадзтве, аўтарытэту, матэрыяльнай самастойнасьці і г. д. Маладыя павінны яшчэ гэтага дасягнуць. Яны ня мусяць прыносіць у ахвяру палітычным жарсьцям, руціннаму і малому сваю будучыню, якая павінна стаць будучыняй сьветлай і вольнай Беларусі. Галоўнае, каб малады хлапец, маладая дзяўчына былі адукаванымі асобамі, сьвядо-мымі беларускай культуры і беларускай нацыі. Беларускія маладыя людзі мусяць у гэтым сабе дапамагаць і падтрымліваць адзін аднаго. Зь цягам часу (з узростам) будуць зьмяняцца ацэнкі і дачыненьні ў палітыцы і ў жыцьці, але галоўнае павінна злучаць усіх: Бог у душы - «Беларусь - гэта сьвятое»; беларуская мова ёсьць Боскі дар, наша вялікая мова; беларуская дзяржава ёсьць наш беларускі дом - даражы ёй, як бацькам і маткай; наш бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб Пагоня ёсьць сымбалі нашага існаваньня.

Малады Фротн павінен застацца арганізацыйна адзіным і мець сваю моладзевую канцэпцыю беларускіх нацыянальных каштоўнасцяў, духоўнага беларускага асьветніцтва і змаганьня за ідэалы. Арганізацыйнае адзінства Маладога Фронту ў гэтай сытуацыі - задача цалкам вырашальная і залежыць ад саміх маладафронтаўцаў.

## Дачыненьні, якія трэба мець на ўвазе

Падрыхтоўка «каляніяльнай» замены Лукашэнкі, нягледзячы на правал праекту «Чыгір», працягваецца. Ёсьць відавочныя вынікі гэтай дзейнасьці. Выключаныя з палітыкі Г.Карпенка, Ю.Захаранка, адсунуты ў бок і выгнаны зь Беларусі С.Шарэцкі, рэзка і татальна ўзмоцнена «вечная барацьба» з Пазьняком (гэта значыць са мной), Народны Фронт расколаты і працягваецца яго разбурэньне. У бліжэйшы час будзем назіраць спробы перакупіць (у літаральным сэнсе слова) частку сяброў БНФ.

Выстаўлены дзьве фігуры - спадары М.Чыгір і В.Ганчар (потым застанецца адна). Зараз апазыцыйную групу Вярхоўнага Савета (легітымнасьць якой прызнае Захад і Народны Фронт) узначаліў В.Ганчар. Неўзабаве можна чакаць фармальнага зьмяшчэньня С.Шарэцкага з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета (калі ён ня стане выконваць абавязкі прэзыдэнта). Не сумняваемся, што Масква ведае, куды захоча ўкласьці грошы. Плян замены каляніяльнай адміністрацыі на Беларусі запрацуе з новай сілаю. БНФ вымушаны будзе разабрацца за прызнаньнем легітымнасьці Вярхоўнага Савета і авантурызмам яго новага скандальнага кіраўніка, да якога няма даверу.

Выйсьце з гэтага стану было прапанавана яшчэ год таму - стварэньне Грамадзянскага Парляманту Беларусі. Небясьпеку ідэі Грамадзянскага Парляманту апанэнты адчулі адразу і абвалілі на яе цяжар крытычнай дэмагогіі. Каляніяльная апазыцыя ўжо выйграла час. Тым ня менш - ня ўсё страчана. Трэба працягваць працу па стварэньні Грамадзянскага Парляманту, а таксама паспрабаваць па-новаму глянуць на магчымасьці сфармаваньня Часовага Ўраду Беларусі выконваючым абавязкі Прэзыдэнта.

Пакуль ня будзе створана альтэрнатыўна рэжыму і Лукашэнку, усе намаганьні ўсёй апазыцыі ў Беларусі ні да чаго не прывядуць. Альтэрнатыву імкнецца стварыць каляніяльная апазыцыя і Масква. Трэба стварыць нашу альтэрнатыву. Яна павінна быць вызвольнай і беларускай.

**Зянон Пазьняк, Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», 8 жніўня 1999 г.**

